# Голас Радзімы

№ 10 (2152)
8 сакавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.








У адным з новых мікрараёнаў сталіцы Беларусі адкрыўся кінатэатр «Бярэсце», што стала вялікай культурнай падзеяй і радасцю для мясцовых жыхароў. Бо ў мікрараёне не было дасюль ні клуба, ні Дома культуры. Цяпер аматарам кіно гэтага раёна не трэба будзе ездзіць па горадзе, каб паглядзець той ці іншы фільм. Мяркуецца, што кінатэатр «Бярэсце» ператворыцца з цягам часу ў своеасаблівы цэнтр беларускай культуры. Аднак ужо цяпер паўстае пытанне: ці рэальная такая задума! І падставы для сумненняў ёсць. На думку спецыялістаў, у будынку «Бярэсця» наладзіць работу, як гэта павінна быць у сучасным культурным цэнтры, практычна немагчыма. Бо акрамя дзвюх залаў на 200 і 500 месцаў і невялікага фае, тут амаль што няма падсобных памяшканняў. А гэта азначае, што толькі што адкрыты кінатэатр, на які ўскладалася так многа надзей, маральна ўстарэў і не адпавядае патрабаванням сучаснага гледача.

(Аб гэтых і іншых праблемах на 6-й старонцы змешчаны матэрыял «Ад чаго баліць душа кінапракатчыка»).

Фота С. КРЫЦКАГА.

# ЗАЯВА

## ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР, САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР

У рэспубліцы разгарнулася шырокая, шматбаковая работа па падрыхтоўцы да выбараў народных дэпутатаў Беларускай ССР і мясцовых Саветаў. Праводзяцца шматлікія сустрэчы і дыскусіі кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі. На іх, як правіла, у дзелавой, канструктыўнай форме абмяркоўваюцца актуальныя сацыяльна-эканамічныя і палітычныя праблемы. Гэта было характэрна і для многіх мітынгаў, якія адбыліся 24 і 25 лютага г. г. у радзе гарадоў.

25 лютага адбыўся санкцыяніраваны масавы мітынг у горадзе Мінску. У ролі непасрэднага арганізатара выступіла нефармальнае аб'яднанне, якое называе сябе Беларускім народным фронтам. Улічваючы важнасць перадвыбарнай тэматыкі, якая ўказвалася ў заяве, прадстаўленай ім у Мінскі гарвыканком, кіраўніцтва ЦК Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў рэспублікі, абласнога і гарадскога партыйных камітэтаў вырашыла прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве.

Некаторыя прамоўцы выказвалі незадаволенасць работай партыйных, савецкіх, гаспадарчых органаў па паляпшэнню жыцця людзей, умоў іх працы і быту, развіццю дэмакратычных працэсаў. Асабліва востра і ўсхвалявана абмяркоўвалася тэма Чарнобыля. Былі нараканні на хібы ў падрыхтоўцы да выбараў.

На жаль, арганізатары мітынгу, парушыўшы ўзятае на сябе абавязацельства, спекулюючы на наяўных недахопах і цяжкасцях, практычна не ўносячы нічога канструктыўнага, сталі на шлях падбухторвання, дэзінфармацыі і ачарнення. Асобныя прамоўцы дайшлі да таго, што сцвярджалі, быццам Кампартыя Беларусі самая рэакцыйная і самая антынародная, а яе ідэалогія — нацыянальны нігілізм. Пры гэтым партыйным органам прыпісвалася такое гнюснае абвінавачванне, як узбуджэнне міжнацыянальнай варожасці.

Абвінаваціўшы ўсіх і ўся ў недэмакратычных прыёмах, арганізатары мітынгу ў сваім звароце фактычна заклікалі да дзеянняў, якія не ўпісваюцца ў працэс стварэння прававой дзяржавы.

Лідэры БНФ, імкнучыся да ўлады, робячы стаўку на дыктат, заявілі на мітынгу, што яны не пойдуць на дыялог, узаемныя кантакты з канстытуцыйнымі органамі ўлады рэспублікі.

ЦК Кампартыі Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў БССР асуджаюць гэтыя недапушчальныя дзеянні, якія вядуць да грамадзянскай канфрантацыі.

Заклікаем камуністаў і беспартыйных, усіх працоўных рэспублікі, жанчын, моладзь і ветэранаў аберагаць закон, прынцыпы сацыялістычнай дэмакратыі і галоснасці, умацняць работу з усімі нефармальнымі рухамі, якія гатовы да дзелавога супрацоўніцтва, рашуча выступаць супраць тых хто імкнецца абвастрыць, дэстабілізаваць абстаноўку ў рэспубліцы. Падзяляючы заклапочанасць працоўных станам грамадска-палітычнай сітуацыі, становішчам спраў у эканоміцы, сацыяльнай і іншых сферах, накіруем агульныя намаганні на энергічнае ажыццяўленне высакародных мэт перабудовы.

*«Наша грамадства раздзялілася на дзве часткі. З аднаго боку — КПСС, з другога — Беларускі народны фронт, дэмакратычныя арганізацыі і ўся дэмакратычная грамадскасць. Такое становішча нельга прызнаць карысным. Таму што напружанне можа ўзрастаць да таго часу, пакуль не адбудзецца канфлікт. Таму трэба рабіць усё, каб своечасова ставіць пытанні. Улада ў руках КПСС, у руках манапольнай наменклатуры. Бяда яшчэ не толькі ў тым, што Кампартыя Беларусі самая кансерватыўная, самая рэакцыйная, самая антынародная, бяда ў тым, што яе ідэалогія — нацыянальны нігілізм. Гэта адзіная партыя з усіх рэспубліканскіх партый, ідэалогія якой грунтуецца на непрызнанні свайго народа, сваёй культуры, сваёй мовы. За дзесяткі гадоў яны давялі наша грамадства да такога становішча, што мы страцілі сваю гісторыю, забылі Бацькаўшчыну, забываем сваю мову. За ўсю гісторыю чалавецтва не было больш шкоднай арганізацыі, чым тая арганізацыя, якая заснавана на ідэалогіі марксізму, ленінізму, сталінізму, мааізму. Яны залілі крывёй палавіну планеты, яны знішчылі дзесяткі мільёнаў людзей, яны знішчылі цэлыя народы, растапталі культуру, растапталі нашу рэлігію, нашу мараль. Але чалавек моцна зроблены богам, мы адраджаемся».*

*(З выступлення лідэра фронта БНФ «Адраджэнне» З. Пазняка на мітынгу ў Мінску 25 лютага 1990 г.).*

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



**Прадстаўнікі аўстрыйскай дабрачыннай рэлігійнай арганізацыі «Фольксхільфэ» даставілі ў Беларусь 6 тон дзіцячага харчавання і медыкаменты — дар дзецям Краснапольскага і Касцюковіцкага раёнаў Магілёўскай вобласці, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гэта другая дабрачынная акцыя, праведзеная ў Аўстрыі ў адказ на зварот шэрагу грамадскіх арганізацый нашай рэспублікі да суайчыннікаў і ўсіх людзей добрай волі за мяжой. Госці на чале з кіраўніком «Фольксхільфэ» Фрыцам Хофманам сустрэліся ў Мінскім епархіяльным упраўленні з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі ў час сустрэчы з прадстаўнікамі «Фольксхільфэ».**

## У ГЕНКОНСУЛЬСТВЕ...

### ГДР...

**У генеральным консульстве ГДР у Мінску адбыўся прыём з выпадку 34-й гадавіны Нацыянальнай народнай арміі ГДР. На ім прысутнічалі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, военачальнікі, прадстаўнікі савецкіх і партыйных органаў. Па даручэнню міністра нацыянальнай абароны ГДР групе ветэранаў і афіцэраў Савецкай Арміі былі ўручаны медалі «Братэрства па зброі».**

**У час прыёму, які прайшоў у цёплай абстаноўцы, генеральны консул ГДР у Мінску Вернер Янда і першы намеснік камандуючага Беларускай ваеннай акругай генерал-лейтэнант М. Кендзюхоў абмяняліся прамовамі.**

### НРБ

**У Мінску адбылася першая прэс-канферэнцыя генеральнага консульства Народнай Рэспублікі Балгарыі, якое адкрылася тут нядаўна. Яна прымеркавана да нацыянальнага свята гэтай краіны — 112-годдзя вызвалення ад асманскага прыгнёту.**

**Генеральны консул НРБ у Мінску Сто... Фердаў расказаў аб гісторыі барацьбы балгарскага народа за незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне, падрабязна спыніўся на прыкладах праверанай часам дружбы паміж Балгарыяй і Беларуссю, ахарактарызаваў цяперашнюю палітычную ...становку ў НРБ.**

**Былі дадзены адказы на пытанні журналістаў.**

**Трэцяга сакавіка, у дзень гадавіны, на мінскіх ваенных могілках па вуліцы Казлова да магіл рускіх воінаў — удзельнікаў баёў на Шыпцы былі ўскладзены кветкі.**

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ

### АДНАВІЦЬ ДОБРАЕ ІМЯ

**Далёка не ўсе магчымасці па аднаўленню законных правоў грамадзян, якія былі нявінна асуджаны ў перыяд культу асобы, выкарыстоўвае грамадскае фарміраванне, якое дзейнічае пры Мінскім гарадскім Савеце. Не атрымаўшы тут дакладных аргументаваных адказаў, пацярпеўшым і іх сваякам нярэдка даводзіцца звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі.**

**Да такой высновы прыйшлі члены камісіі пры Вярхоўным Савеце БССР па аказанню садзеяння ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і ўвекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў, калі заслухалі на апошнім пасяджэнні інфармацыю старшыні аналагічнай камісіі пры гарсавеце Г. Цішкевіча і намесніка пракурора вобласці С. Скаруліса.**

**Адзначалася, што ў горадзе няма поўнай яснасці аб колькасці і персанальным складзе рэабілітаваных, не заўсёды ім прадастаўляюцца неабходныя льготы. Для аднаўлення іх добрага імя практычна не скарыстоўваюцца магчымасці прэсы.**

**Камісія даручыла аналагічным фарміраванням, якія дзейнічаюць пры мясцовых Саветах рэспублікі, спаўна выкарыстоўваць заканадаўча зацверджанае права па аказанню дапамогі пацярпеўшым і іх сем'ям.**

## ДЛЯ ЗДАРОЎЯ ЛЮДЗЕЙ

### ГАЮЧЫ СКАРБ

**Колькі людзей адпачывала ў санаторыі-прафілакторыі «Палессе», і ніхто нават не здагадваўся, што ў іх пад нагамі знаходзіцца гаючы скарб...**

**Але вось гідрагеолагі зрабілі свідравіну, і адтуль ударыў фантан мінеральнай вады. Аказваецца, пад санаторыем на глыбіні чатырохсот метраў размяшчаецца цэлае возера мінералкі. Аналізы, праведзеныя ў лабараторыі АН БССР, паказалі высокія гаючыя ўласцівасці крыніцы. Вада ўтрымлівае мікраэлементы, якія дапамагаюць тым, хто пакутуе на гастрыт, каліт, іншыя захворванні органаў стрававання.**

**У санаторыі ўмела распарадзіліся знойдзеным скарбам. Частка мінеральнай вады пойдзе для піцця, астатняя — на лячэбныя ванны.**

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ААН

### АБ'ЯДНАЕМ НАМАГАННІ

**17 мільярдаў рублёў, гэта значыць амаль два гадавыя бюджэты рэспублікі, спатрэбіцца Беларусі для ліквідацыі на сваёй тэрыторыі вынікаў аварыі 1986 года на Чарнобыльскай АЭС. Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры міжнароднага таварыства ў Нью-Йорку пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ААН Леў МАКСІМАЎ.**

Ён зачытаў Зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі да парламентаў, урадаў і міжнародных арганізацый, суайчыннікаў, усіх людзей добрай волі з заклікам аказаць усямернае садзеянне і дапамогу Беларусі ў ліквідацыі вынікаў аварыі, якія аказаліся больш маштабнымі і сур'ёзнымі, чым гэта ўяўлялася нават буйным вучоным і спецыялістам.

Вынікі чарнобыльскай аварыі, якія становяцца ўсё больш адчувальнымі для нашага народа, прымушаюць шукаць самыя розныя шляхі для выхаду з таго становішча, што ўзнікла, адзначыў пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Л. Максімаў у гутарцы з карэспандэнтам ТАСС. Мы, дыпламаты, працягваў ён, як і ўрад рэспублікі, яе Вярхоўны Савет, прыкладаем намаганні для мабілізацыі міжнароднага таварыства, а таксама беларускай эміграцыі на аказанне такой неабходнай сёння дапамогі. Тут, у Злучаных Штатах, існуе своеасаблівы цэнтр беларускіх інтэлектуалаў, які выдае сваю газету, шырока вядомую на Захадзе. Мы з імі падтрымліваем сувязь і зведваем падтрымку. Рэдактар газеты «Беларус» Янка Запруднік, а ўслед за ім уся беларуская эміграцыя з вялікім энтузіязмам адгукнуліся на заклік суайчыннікаў дапамагчы ў ліквідацыі вынікаў Чарнобыля.

Створаны шматлікія грамадскія камітэты па збору сродкаў, якія ўжо налічваюць дзесяткі тысяч долараў. Аднак эміграцыя пакуль устрымліваецца ад перадачы гэтых сродкаў у Беларусь, бо баіцца, што яны не трапяць да тых, хто мае ў іх патрэбу. Мы стараемся развеяць гэтыя апасенні, прапаноўваем прадстаўнікам эмігранцкіх абшчын самім адправіцца ў Беларусь і назіраць за выкарыстаннем сабраных імі сродкаў. Больш таго, па вопыту Украіны, наш урад гатовы ўзяць на сябе ўсе расходы, звязаныя з іх знаходжаннем у рэспубліцы.

У гэтай сувязі варта адзначыць, што пры Беларускім аддзяленні Савецкага дзіцячага фонду імя Леніна створаны каардынацыйны савет «Дзеці Чарнобыля». У яго ўваходзяць прадстаўнікі адзінаццаці грамадскіх арганізацый (у тым ліку Беларускага народнага фронта), якія займаюцца размеркаваннем дапамогі і кантролем за яе правільным выкарыстаннем. Можна было б па гэтай лініі ажыццяўляць перадачу сродкаў і ад беларускай эміграцыі. Спадзяёмся, што ў бліжэйшыя месяцы сабраная дапамога ўсё ж паступіць па прызначэнню.

Характэрна, што апошнім часам беларуская эміграцыя настойліва просіць нас прысылаць народных дэпутатаў, такіх, як Станіслаў Шушкевіч, для правядзення сустрэч з шырокай грамадскасцю і прадстаўнікамі дзелавога свету Амерыкі. Гэта, на іх думку, будзе садзейнічаць актывізацыі далейшага збору сродкаў для ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Характэрна, што беларуская эміграцыя ў сувязі з узнікшым у рэспубліцы становішчам кансалідавалася і актыўна праяўляе патрыятычныя пачуцці.

Адна з галоўных прычын таго, што Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі выступілі з абнародаваным у ААН зваротам, заключаецца ў тым, што мы пераходзім да якасна новай стадыі ліквідацыі доўгатэрміновых вынікаў чарнобыльскай аварыі, падкрэсліў у гутарцы з карэспандэнтам ТАСС другі сакратар Міністэрства замежных спраў Беларускай ССР Аляксей Мажухоў, які ўдзельнічаў у прэс-канферэнцыі ў ААН. Гэтыя вынікі абумоўлены перш за ўсё доўгатэрміновым дзеяннем малых доз радыяцыі на адной трэцяй тэрыторыі рэспублікі.

Згодна з данымі савецкіх вучоных, а таксама спецыялістаў ЗША, Англіі і іншых краін, працяглае ўздзеянне малых доз радыяцыі выклікае генетычныя вынікі. Таму распрацаваная на бліжэйшыя шэсць гадоў праграма накіравана на тое, каб захаваць генетычны фонд народа і максімальна знізіць рызыку пражывання на тэрыторыі рэспублікі.

Варта адзначыць і іншы аспект праблемы, працягваў А. Мажухоў. Уздзеянне чарнобыльскай аварыі адбілася не толькі на тэрыторыі СССР, але і ў пэўнай ступені на тэрыторыях шэрагу еўрапейскіх краін. Гэта значыць, што аб'яднанне намаганняў вучоных у пошуку новых метадаў і сродкаў забеспячэння бяспекі і зніжэння рызыкі насельніцтва, якое падвяргаецца дзеянню радыяцыі, становіцца міжнароднай задачай.

Навуковымі даследаваннямі вынікаў Чарнобыля савецкія і заходнія вучоныя будуць займацца яшчэ многія гады, падкрэсліў на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры ААН пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН Леў Максімаў. Воляю абставін Беларусь ператварылася ва ўнікальны аб'ект для даследаванняў у інтарэсах усяго чалавецтва доўгатэрміновых вынікаў уздзеяння радыяцыі на людскі арганізм. Сёння, калі ва ўсім свеце ўзрастае экалагічная заклапочанасць, у новай якасці паўстае пытанне аб міжнароднай радыяцыйнай экалагічнай бяспецы ў глабальных маштабах. Менавіта таму Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі звяртаюцца да міжнароднага таварыства з заклікам аб'яднаць намаганні, каб адолець бяду, якая стала экстрэмальнай экалагічнай з'явай не толькі нацыянальнага, але і міжнароднага маштабу.

## НЕСВЯТОЧНАЯ ГУТАРКА З НАГОДЫ СВЯТА

# ЖАНЧЫНА: ПАПЯЛУШКА ЦІ ПРЫНЦЭСА?

**Зноў прыйшло Восьмае сакавіка — свята жанчын. Як і звычайна, у гэты дзень іх чакаюць віншаванні, падарункі, добрыя зычанні, надзвычай уважлівае абыходжанне з боку мужчын. Што ж бачыць жанчына на наступны пасля ўрачыстасцей дзень? З чым сутыкаецца ў паўсядзённым жыцці, як адчувае сябе? Пра гэта і будзе несвяточная гутарка журналіста Галіны УЛІЦЁНАК з паэтэсай Галінай КАРЖАНЕЎСКАЙ.**



*— Галіна Анатольеўна, можа з гэтага пытання і пачнём нашу гаворку? Дык хто ж яна — жанчына?*

— Пры ўсім адрозненні жанчыны ад мужчыны, пры ўсёй унікальнасці яе псіхікі не існуе жанчыны **ўвогуле.** Ёсць канкрэтная асоба са сваім характарам, звычкамі, узроўнем развіцця, са сваім успрыняццем і разуменнем свету. Амплітуда жаночых здольнасцей і схільнасцей надзвычай шырокая. Адна ўсю сябе аддае дому, дзецям, другая — «гарыць» на працы грамадскай, арганізацыйнай, трэцяя — горнецца да творчасці, да мастацтва. Але і першая, і другая, і трэцяя згодна са сваёй прыродай — перш за ўсё прадаўжальніца роду, маці. Тут і пачынаюцца праблемы, драмы, супярэчнасці. (Агаваруся: размова пойдзе пра жаночую долю ва ўмовах нашай, савецкай рэчаіснасці). Амаль усе мы, калі можна так сказаць, маці па сумяшчальніцтву. Не адно ўжо пакаленне нашых жанчын аказваецца ўцягнутым у вір знясільваючай, самаадданай працы — перш за ўсё вытворчай, якая даўно стала самамэтай і мала наблізіла нас да светлай будучыні.

Старэйшыя пакаленні з вялікай адказнасцю ставіліся да сваёй працы і грамадскіх абавязкаў, і зараз яны гэтым ганарацца. У такіх выпадках хочацца спытаць: ну, а кім вы былі для вашых дзяцей? Ці часта вы іх бачылі? Мае равеснікі менавіта з-за «стаханаўства» бацькоў раслі поўнасцю прадастаўленымі самім сабе, можна сказаць — занядбанымі. Не, нас і любілі бацькі, і даглядалі ў меру сіл, але **не выхоўвалі**. Або, калі хочаце, выхоўвалі блага. Пустазелле звычайна расце само, а жыта патрэбна сеяць. Дык які сэнс, па вялікаму рахунку, у такой самааддачы?

*— Але ці можна вінаваціць бацькоў у тым, у чым яны не вінаватыя? Жанчын вымушалі працаваць грамадства, парадкі, якія склаліся на той час. Жанчыны былі тымі самымі праслаўтымі «вінцікамі». А ў вінціка хіба можа быць іншае прызначэнне, чым толькі трымаць на сабе вялікі механізм. Калі ж вінцік выходзіць са строю, яго выкідваюць і замяняюць новым.*

— Але каб жа толькі «на той час» так адбывалася! І «на гэты» паварот да сям'і, яе каштоўнасцей ідзе яшчэ марудна, цяжка. Праўда, на шчасце, зрухі ёсць. Ужо тое, што маці можа да трох гадоў сама даглядаць сваё дзіця,— вялікае дасягненне нашага грамадства. Каторая з нас не памятае, як упершыню прыносіла дзіцятка ў яслі і як яно, ледзьве ўмеючы хадзіць, чаплялася за спадніцу і горка плакала... Яго пакідае мама!

Але парадокс: што ўжо ўсвядомілі перадавыя сілы грамадства, падчас не ўсведамляюць самі мацяркі. Што лічыцца галоўным у выхаванні дзяцей? Накарміць, апрануць, купіць усё неабходнае, прасачыць за станам здароўя і г. д. Тут намі часта кіруе не пачуццё меры і здаровага сэнсу, а інстынкт у чыстым выглядзе. А між тым не менш важна ўзбагачаць дзіця духоўна, адкрываць яму фарбы і адценні свету, выхоўваць яго ўнутрана свабодна[illegible] паўнакроўнай асобай... С[illegible] жыцце, я не вельмі «зацык[illegible]лася» на праблемах сям'і?

*— Што ж, жанчыну ад сям'і аддзяліць цяжка. Ні кожную канкрэтную жанчыну, ні на жанчыну «ўвогуле».*

— Разумееце, каб нешта аддаваць, трэба перш-наперш мець. Духоўнасць спачатку назапашваецца, а пасля ўжо трацiцца. Яшчэ Эдгар По пісаў, што душа матэрыяльная. Але тое, што мы завём душою, трацiцца, на вялікі жаль, самым няўдзячным чынам. Найбольш на дробязі, на паўсядзённае існаванне, на побыт. Калі існуе праблема, дзе купіць прыстойнае адзенне або якасныя прадукты, то высокія матэрыі непазбежна адсоўваюцца на задні план.

*— Так, на жаль, наш сённяшні побыт не проста цяжкі, ён для жанчыны зневажальны. І тут зноў-такі адбіваюцца праблемы агульнаграмадскія. Не можа чалавек быць прыгожым і знешне, і душою без добрай матэрыяльнай асновы на тое. А нас усё палохалі, па-руску кажучы, «вещизмом», як бы мы лішніх рэчаў не набылі, бо гэта будзе на шкоду духоўнаму пачатку савецкіх людзей. А ў выніку, нам яшчэ больш, чым раней, не хапае часу на добрую кнігу, на выстаўку, на сузіранне, роздум...*

— Даўно заўважана, што мы, жанчыны, бяром інфармацыю не столькі з друку, колькі з размоў. Але ў чым я пераканалася пры паэтычных вечарах і выступленнях: слабы пол, у адрозненне ад дужага, куды танчэй і непасрэдней успрымае паэзію. Мужчына ўнурыцца і глядзіць некуды сабе пад ногі. Вось і гадай, пра што ён думае... А жанчына раскрываецца насустрач вершам, як бутон, асвятляецца яе твар, свецяцца вочы... Мяне заўсёды гэта надзвычай кранае.

*— Слухаць, успрымаць сэрцам паэзію і ствараць яе — відаць, рэчы блізкія...*

— Так, творчасць патрабуе зваротнай сувязі, субяседніка. Але, на мой погляд, жанчына як творца не праявіла яшчэ сябе ў поўнай меры і ў сусветным маштабе. Пераважная большасць геніяў — мужчыны. У іх была шчаслівая магчымасць засяродзіцца на сабе, на сваім душэўным стане — без засяроджанасці натхненне не дало б ніякіх пладоў. А нам даводзіцца раздвойвацца, сёння нават растройвацца — сям'я, работа, творчасць. Паспрабуй знайдзі залатую сярэдзіну! Чым ахвяраваць, чаму аддаваць асноўныя сілы?..

*— На жаль, жанчыне шмат чым асабістым прыходзіцца ў жыцці ахвяраваць. Але, на мой погляд, гэта хутчэй праява моцнага духу, а не жыццёвай кволасці. Бо каб свядома ахвяраваць, трэба быць мужным чалавекам.*

— Наша гістарычнае развіццё, вымушанае хістанне паміж дзвюма вялікімі суседнімі нацыямі, выхавала ў характары беларуса асцярожнасць, памяркоўнасць і нават, я б сказала, палахлівасць. Экстрэмальных сітуацый гэта не тычыцца: калі ваяваць, то беларус будзе першы. А вось на сходзе, калі ад яго залежыць вырашэнне нечага важнага, ён хутчэй за ўсё прамаўчыць. Гэта мая асабістая думка, з ёю можна спрачацца. Для падмацавання спашлюся на літаратурнага героя — быкаўскага Петрака з аповесці «Знак бяды». І так ён, і гэтак, і хітруе, і дагадзіць хоча немцам. А што ж яго жонка Сцепаніда? Сама бескампраміснасць, сама нязломнасць, сама мужнасць. Прырода як бы ўраўнаважвае мужчынскую залішнюю лаяльнасць жаночай непрымірымасцю. А ўвогуле нацыянальны характар — надзвычай цікавая рэч. Шкада, што на гэтую тэму маўчыць навука.

*— А вас не хвалюе той момант, што беларуская жанчына-гараджанка ў многіх выпадках ужо не здольная перадаць сваім дзецям духоўную повязь з роднай зямлёй, з каранямі?*

— У тым сэнсе, што забыла мову і перастала шанаваць бацькоўскія традыцыі? Хвалюе, вядома, а дакладней — трывожыць. Такую аднойчы давялося назіраць сцэнку. Чакаю сваёй чаргі ў цырульні (яны ў нас заўсёды перапоўненыя). Маладая цырульніца ўзяла з сабой на працу дачушку гадоў чатырох. Тая бегае, гуляе, забаўляецца, як умее. Гучна гаворыць радыё. Як толькі паліліся гукі фальклорнай песні — спявалі бабулі адной з вёсак — цырульніца загадала дачцэ: «Доченька, выключи, эти тети поют плохо». Мне было вельмі цяжка ўтрымацца, каб не ўступіць у спрэчку. Ні бацькі, ні школа, аказваецца, не навучылі маладую маці павазе да каранёў, не далі ёй чуйнасці да свайго, роднага. А чаго не маеш, таго і дзецям не перадасі. Нейкае зачараванае кола!

Калі змалку ў душы застаюцца пустоты, яны запаўняюцца сурагатамі. І тады складваецца нейкі перавернуты, пачварны свет, у якім таксама ж і [illegible]юцца, і сумуюць, і пак[illegible]оць. Вось толькі няма святла ў канцы гэтага тунеля.

*— Галіна Анатольеўна, вось мы з вамі гаварылі пра тое, што савецкія ж[illegible]чыны ў працэсе эмансіпа[illegible]дарэчы, якія ўспрымаецца [illegible] нас даволі своеасаблівa, а часам нават скажона) страцілі вельмі многа. Як вы лічыце, ці не аднесці да такіх страт і нашу адмову ад так званых «жаночых» прафесій? Усё ж такі гэтыя «жаночыя» прафесіі не проста так вызначыліся, а былі ў значнай ступені сфарміраваны самім жыццём на працягу доўгага сацыяльна-грамадскага развіцця. У якіх прафесіях, на ваш погляд, жанчына найболей можа раскрыцца?*

— Ва ўсіх, якія ёй па сіле фізічна і не шкодзяць самапачуванню. Ёсць у мяне, праўда, сумненне наконт палітыкі. Можа таму, што не было ў нас і няма сваёй М. Тэтчэр. Ужо куды-куды, а да органаў улады нас дапускаюць з вялікай неахвотай.

Але я хацела закрануць такі аспект тэмы: наколькі ў нашых умовах жанчына можа адчуваць сябе жанчынай? Успамінаю жарт калегі, таварыша па працы ў газеце «Літаратура і мастацтва»: «Хіба вы пані? Вы ж рабатніцы». Калі табе ад папер няма калі галавы падняць, то сапраўды — цяжка быць паняй. Адзін крытык, пішучы нататкі пра паэтэс, сказаў у дачыненні да мяне: яе лірычная гераіня не каханка, а маці, жонка і гаспадыня. Ведаю, ён укладаў у сваё выказванне самы станоўчы змест, але я міжволі пакрыўдзілася. Каму не хочацца быць каханкай! Каму не прыемна, калі ўсе мужчыны навакол дружна і нязмушана «іграюць каралеву»! Найлепш атрымліваецца ў іх гэтая высакародная ігра якраз у сакавіцкія святы.

*— Іншы раз даводзіцца чуць голас жанчын у абарону сваіх правоў і сваёй долі. Але, здаецца, ён яшчэ вельмі ненастойлівы і нясмелы. І ў наш бурлівы час проста-такі тоне ў мностве больш гучных, энергічных патрабаванняў.*

— Так, паднімай, не паднімай голас — наўрад ці што зменіцца. Пакуль грамадства не ўзнімецца на новую, вышэйшую ступень развіцця, пакуль адносіны да жанчыны не пераменіць дужы пол, які не так часта бывае высакародным, то мы будзем жыць паранейшаму. Што ж датычыць жансаветаў, пра якія зараз многа гавораць, то я не маю ніякага ўяўлення пра іх дзейнасць. Энергічныя, ініцыятыўныя жанчыны маглі б шмат зрабіць, але толькі пры ўмове, што яны самі збяруцца ў арганізацыю, а не будуць пешкамі ў руках бюракратыі. Тыя, кім хочаш, засланяцца — і саветамі, і інвалідамі, і жанчынамі... Не, малавата яшчэ сярод нас свядомых, моцных воляй, апантаных ідэяй прадстаўніц. Вось і атрымліваецца: з аднаго боку, «ніхто не дасць нам вызвалення», а з другога — мы самі не гатовы яго ўзяць, а тым болей распарадзіцца без шкоды для ўласнай жаноцкасці.

Ёсць у мяне адзін даўні верш, я працытую два яго апошнія радкі:

**Дазвольце слабай стаць жанчынай,**
**Каб слабасць я перамагла.**

Часам задумваешся: а ці трэба яе, слабасць, перамагаць? Ці трэба пераймаць ад нашых мужоў, каханых, сяброў не самыя лепшыя іх рысы,— прагматычнасць, эгаізм, жорсткасць, грубасць? Па сутнасці мы розныя істоты. Так што і не папялушка жанчына, і не прынцэса... Проста — жанчына!

*— Дзякую за гутарку.*

**НА ЗДЫМКУ: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ з дачкой Насцяй.**

**Фота У. КРУКА.**

# ВЫРАШАЮЦЦА СКЛАДАНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Як праверыць якасць металу ў цяжкадаступных месцах дэталі, куды не дабрацца ніякімі дэфектаскопамі? Для спецыялістаў вытворчага аб'яднання «Бабруйскшына» гэтае складанае пытанне перастае быць невырашальным. Вучоныя магілёўскага аддзялення Інстытута фізікі АН БССР распрацавалі і ўкараняюць цяпер на прадпрыемстве прабаадборнік для спектральнага аналізу.

Варта дакрануцца да дэталі спецыяльным электродам, як на ім тут жа асядае вельмі тонкі слой выпаранага металу. Гэтага дастаткова, каб у заводскай лабараторыі змаглі правесці дакладную дыягностыку.

З уводам лабараторыі завадчане набылі новыя магчымасці ў барацьбе за якасць прадукцыі. Раней, напрыклад, пусціўшы ў работу атрыманы ад сумежнікаў металакорд, яны толькі па рэкламацыях маглі даведацца, што якасць шын пацярпела з-за дрэннага металічнага пакрыцця «арматуры» кола. Цяпер становішча мяняецца. Заслон браку паставіць уваходны спектральны кантроль атрымліваемага металакорду.

Сёння, калі жыццё прымушае работнікаў вытворчасці ўсё часцей звяртацца за дапамогай да навукі, роля кожнага даследчага цэнтра ў абласным горадзе ў многа разоў узрастае. Як і на «Бабруйскшыне», фізікі адкрылі спектральныя лабараторыі ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце «Строммашына», на магілёўскім маторарамонтным заводзе Дзяржаграпрома БССР, дзе наладжаны эфектыўны кантроль якасці выпускаемай прадукцыі, прыгоднасці ачышчаных маслаў. У Магілёўскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно» асвойваюцца іонаплазменныя тэхналогіі ўмацавання рэжучага інструмента, дэталей ніцепрацяжных прыстасаванняў, ахоўы абсталявання, якое працуе ў агрэсіўным асяроддзі. Укараняюць вучоныя і лазерную тэхніку, матэматычныя праграмы для камп'ютэрнай апрацоўкі інфармацыі, а з нядаўніх часоў глыбей сталі займацца і праблемамі, звязанымі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, — у аддзяленні створана лабараторыя радыехімічнай экалогіі.

— Не аслабляючы даследаванняў фундаментальнага характару, мы ўсё больш займаемся прыкладнымі работамі, — гаворыць дырэктар аддзялення, доктар фізіка-матэматычных навук Усевалад Радзько.— Доля гаспадарчых дагаворных работ, якія выконваюцца для прадпрыемстваў Беларусі, за апошнія тры гады павялічылася з 33 да 63 працэнтаў. З іх амаль кожная трэцяя прызначана для Магілёва і вобласці. Выгада тут узаемная. Такі курс добра адбіваецца і на фундаментальных даследаваннях, якія не заўсёды можна забяспечыць дастатковымі сродкамі. Частку грошай, зробленых па гаспадарчых дагаворах, выкарыстоўваем для матэрыяльнай падтрымкі даследаванняў па інтэгральнай і валаконнай оптыцы, іншых важных напрамках фізікі. Цяпер мы ўсё больш пераконваемся ў неабходнасці стварэння свайго інжынернага цэнтра для больш аператыўнага ўкаранення навінак.

# ПАДТРЫМЛІВАЮ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

ДЗЕ ЧАЛАВЕК нарадзіўся, тое месца яму і мілае. Вось так і мне любая мая Бацькаўшчына—Беларусь. Ваенны віхор занёс мяне ў туманную Англію, з таго часу прайшло ўжо болей сарака гадоў. Але, жывучы на чужыне, я ніколі не траціў сувязі са сваім народам, з родным краем. Падтрымліваць гэтую сувязь мне дапамагае і «Голас Радзімы», які я чытаю з 1956 года. Спачатку газета мне не вельмі падабалася, бо ў ёй было шмат злых атак і нападаў на паваенную эміграцыю. Нас лічылі за «кучку рэнегатаў і здраднікаў» свайго народа, «рознага роду калабарантаў». А пра той факт, што некаторыя гэтыя «рэнегаты» былі да вайны вядомымі і заслужанымі камуністамі і камсамольцамі, ахвярна змагаліся за Савецкую ўладу ды пасля былі фальшыва абвінавачаныя як «ворагі народа» і трапілі ў «яжовыя рукавіцы», прайшлі праз пекла сталінскага тэрору і рэпрэсій, вось пра гэта нават успаміну не было. У лік «ворагаў народу» былі залічаны многія аўтарытэтныя вучоныя, акадэмікі, пісьменнікі, палітычныя і ваенныя дзеячы, і ў пераважнай большасці яны былі зліквідаваны зусім беспадстаўна і незаконна яшчэ ў 30-х і 40-х гадах. Сярод сталінскіх ахвяр было многа маіх родных і сваякоў, пераважна шматпакутных сялян (уключаючы маю маці, якая цяпер пасмяротна рэабілітавана), але былі і высокаадукаваныя інтэлігенты і афіцэры Чырвонай Арміі, як, напрыклад, Ражанец Даніла. У першую сусветную вайну—лётчык, ён прымкнуў да бальшавікоў у 1917 годзе, а ў 1937-м быў арыштаваны і загінуў у НКУС. Мяне перад вайною таксама цягалі па допытах, таму што сваякі былі «ворагамі народа».

Мне прыкра аб гэтым пісаць, але на душы робіцца чорна, калі ўспомніш гаротнае дзяцінства альбо прачытаеш у газеце «Голас Радзімы» пра горкі лёс і трагічны канец жыцця нашых слаўных дзеячаў: Чарвякова, Жылуновіча, Галадзеда, Ігнатоўскага, Гарэцкага, Дварчаніна, Язэпа Адамовіча і многіх іншых, імёны якіх цяпер ачышчаны ад кляйма шпіёнаў і здраднікаў. З іх зняты ўсе абвінавачванні, і самі яны рэабілітаваны як сумленныя людзі. За гэта мы шчыра дзякуем Савецкаму ўраду на чале з Міхаілам Гарбачовым, дзякуем за яго гуманныя адносіны да былых ахвяраў сталінізму.

Перабудова, абноўлены гуманітарны падыход і трактаванне сусветных праблем сучасным Савецкім урадам выклікалі да яго вялікую цікавасць і павагу ва ўсіх людзей свету. Я веру, што Савецкая дзяржава развяжа ў будучыні вузлы сваіх эканамічных і экалагічных праблем, у тым ліку і трагедыю чарнобыльскай катастрофы.

Цяпер у вашай газеце друкуецца шмат артыкулаў аб духоўным адраджэнні беларускага народа, аб яго занядбанай роднай мове і культуры; дыскутуюцца мэты і спробы, як гэтую недарэчнасць выправіць, каб выратаваць нацыю ад згубы.

Вялікія змены і рэформы, што цяпер адбываюцца ў Савецкім Саюзе з ініцыятывы Камуністычнай партыі і яе лідэра Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, ускалыхнулі ўвесь свет і асабліва эміграцыю. Часам нам здаецца, што стаўся нейкі цуд. Дзякуючы публічнасці, савецкія газеты пачалі пісаць адкрыта, што падчас панавання сталінскага тэрору і рэпрэсій былі знішчаны мільёны невінаватых людзей з розных слаёў насельніцтва. Газета «Голас Радзімы» піша на сваіх старонках не толькі пра Хатынь, але і пра Катынь і Курапаты і іншыя жахлівыя месцы гібелі невінаватых людзей. Аб гэтым раней жыхары СССР нават шаптаць баяліся з-за страху арышту. Тыя, што асталіся жывымі і дачакаліся лепшага часу, былі звольнены з лагераў і турмаў, рэабілітаваны і сталі паўнапраўнымі грамадзянамі. Быў справядліва асуджаны брэжнеўскі перыяд застою эканомікі і экалагічнай нядбайнасці.

Коратка гаворачы, пачалася перастройка - перабудова палітычнага і эканамічнага ладу і жыцця савецкіх людзей. Прыйшлі новыя кіраўнікі ўрада, абнавіліся кіруючыя органы партыі. Яны ўважліва прааналізавалі палітычнае і эканамічнае становішча ў дзяржаве і прыйшлі да высновы, што былі груба парушаны ленінскія прынцыпы дзяржаўнага ладу, што сацыяльны і эканамічны пошук ёсць вельмі павольны і Савецкі Саюз пляцецца ззаду за капіталістычнымі краінамі. Мне бачыцца, што ў вас робіцца многае для таго, каб стала іншым жыццё грамадства, даць яму сапраўдную свабоду.

У міжнародных адносінах таксама былі прадпрыняты адпаведныя захады, каб спыніць варожасць і антаганізм, наладзіць супрацоўніцтва і ўзаемную пашану паміж рознымі краінамі, змянілася стаўленне да эміграцыі. Кожнаму вядома: лепей мець прыяцеляў, чым ворагаў. Новую палітыку Савецкага ўрада, яго маральныя і гуманітарныя вартасці я падтрымліваю ад шчырага сэрца. Таксама яе падтрымліваюць, як я бачу з газет і з радыё, усе цывілізаваныя людзі Еўропы і Амерыкі і ўсяго свету.

З пашанай

**А. ФЕДАРОВІЧ.**

Англія.

# У НАС ЁСЦЬ НЕШТА БОЛЬШАЕ

Прабыўшы большую частку свайго жыцця за мяжой, дажыўшы да глыбокай старасці, я магу смела сказаць, што з кожным годам усё больш і больш пераконваюся ў вялікіх душэўных уласцівасцях свайго народа, у яго высокай духоўнай культуры, у прыгажосці і вобразнасці яго мовы. Ілюстрацыяй гэтага можа служыць артыкул духаборкі Элейн Падавінікавай, які я нядаўна прачытаў у часопісе Саюза духоўных абшчын Хрыста «Искра». Разам з мужам і трыма дзецьмі яна зрабіла паездку ў Савецкі Саюз, дзе яны правялі тры тыдні, наведалі сваякоў Элейн, прысутнічалі на вяселлі аднаго з іх. Э. Падавінікава падрабязна расказвае аб знаходжанні сваёй сям'і на Радзіме продкаў, якія пакінулі яе амаль сто гадоў назад. Валодаючы талентам назіральнасці, яна праўдзіва і прыгожа апісвае свае ўражанні ад наведання Савецкага Саюза, ад сустрэч з родным ёй народам.

Рускія людзі, духаборы ў Канадзе, захавалі на чужыне сваю мову, духоўную культуру вялікага народа, цудоўна разумеюць людзей роднай ім зямлі. Элейн піша, што, калі яна села ў самалёт, які пакідаў СССР з аэрадрома Шарамецьева, ёй было вельмі цяжка прывыкаць зноў да англійскай мовы. Яна валодае ў роўнай ступені мовай як рускай, так і англійскай, але ёй усё ж лягчэй гаварыць з рускімі па-руску. Ужо знаходзячыся ў Англіі, яна піша, што хаця народ англійскі добры, ставіцца да іх пасяброўску, і мова яго ім звыклая, але ім не хапала таго, што яны адчувалі ў СССР. «Там, — піша Элейн, — мы адчувалі асаблівую цеплыню, нешта яднала нас, дазваляючы зразумець душу народа. Знаходзячыся ў вагоне англійскага поезда, я назірала за публікай. Не было тут жывой размовы паміж незнаёмымі людзьмі, якія дзеляцца з вамі сваімі думкамі, стараюцца ўслужыць, як гэта звычайна бывае на Радзіме».

Перад ад'ездам з Савецкага Саюза Элейн хацела запомніць важныя для яе вобраз краіны, пазнаёміцца з «тыповым савецкім чалавекам». Па дарозе на аэрадром Шарамецьева яна разгаварыла з шафёрам таксі, былым маракам, які за час сваёй марской службы пабываў і ў Канадзе, і ў Амерыцы, сустракаўся з людзьмі розных нацыянальнасцей. Ён перакананы, што большасць людзей вызначаюцца дабратой і дружалюбна ставяцца да іншых, калі і тыя да іх гэтак жа прыхільныя. На яго думку, многія інтарэсы людзей на Захадзе і Усходзе супадаюць, і ўвогуле ўсе імкнуцца да агульнай мэты: мірнага і шчаслівага жыцця. Таму ён глядзіць даволі аптымістычна на будучыню чалавецтва. Малады чалавек адзначыў, што нягледзячы на многія негатыўныя бакі жыцця ў СССР, ён упэўнены: «У нас ёсць нешта большае!» І таму ніколі не згадзіўся б перабрацца ў капіталістычную краіну, змяніць сваё жыццё, асабліва цяпер, калі жанаты і мае маленькую дачку. Гэты шафёр не камуніст, бо адчувае сябе не падрыхтаваным да гэтага. Але ён яшчэ малады, усё ў яго наперадзе, і ён спадзяецца, што з гадамі будзе ўцягнуты ў палітыку, таму што горача верыць у перамогу сацыялізму.

«Так вось, зусім выпадкова, піша Элейн Падавінікава, маё страснае жаданне здзейснілася. Вось ён: тыповы, свядомы, сямейны малады чалавек, які верыць у станоўчыя якасці чалавецтва і ў цудоўныя магчымасці будучыні, у стварэнні якой ён абавязаны прымаць актыўны ўдзел, як і ўсе разумныя людзі. Гэтае ўражанне застанецца ў мяне на ўсё жыццё!»

**Эразм ЛЯВІЦКІ.**

Аўстралія.




Заняткі па беларускай мове ў Нававполацкай сярэдняй школе № 5 вядзе настаўніца Вольга ЗАЯЦ.
Фота А. ТАЛОЧКІ.

# КАБ НЕ ПАМЕРЛА МАТЧЫНА МОВА

Ваша пісьмо, прызнацца, мяне вельмі здзівіла і расчуліла, таксама як і першы прыход газеты паўтара года назад. Мне прыемна, што там, на Радзіме, хтосьці ўспамінае і пра мяне. Гэта яшчэ адзін знак тых добрых перамен, якія адбываюцца ў савецкім грамадстве.

Газеты атрымліваю рэгулярна, ідуць яны больш двух тыдняў. Чытаю іх з прыемнасцю і захапленнем. «Голас Радзімы» — адзінае выданне, што прыходзіць да мяне на роднай мове. Найбольш цікавымі з'яўляюцца для мяне матэрыялы аб гістарычным мінулым Беларусі, нацыянальнае пытанне і праблемы беларускай мовы. З праблемамі мовы я сутыкнулася яшчэ ў 1974 годзе, калі праходзіла практыку ў адной з мінскіх вячэрніх школ. Было нялёгка працаваць, а яшчэ больш крыўдна, калі трэцяя частка вучняў пакідала клас па той прычыне, што беларускую мову не разумее і вывучаць не жадае. І мы, будучыя настаўнікі, задавалі сабе пытанне: а навошта і мы яе вывучаем, гэтую мову, на якой у горадзе ніхто не размаўляе, якую чуем толькі па радыё ды ў вёсцы? А тым часам вёскі пусцелі, паміралі нашы бабулькі, якія помнілі і спявалі такія дзіўныя меладычныя песні. А мы станавіліся гарадскімі жыхарамі і, прыязджаючы дадому, размаўлялі «па-гарадскому». Ці можна вярнуць усё, што згублена, канула ў забыццё? Вядома, не. І таму трэба нам усім разам зрабіць магчымае і немагчымае, каб не памерла наша родная матчына мова, каб не была аднесена ў адзін рад з лацінскай.

Зараз крыху аб сабе. Вось ужо пятнаццаць гадоў я жыву ў Туніскай рэспубліцы. Муж мой, Тахар Фрэдж, вучыўся ў Мінскім політэхнічным інстытуце. Знайсці работу ў сталіцы не вельмі лёгка. І таму муж пачаў працаваць на поўдні краіны ў якасці інжынера ў кампаніі па здабычы фасфату.

У нас трое дзяцей: Рустаму — чатырнаццаць, Іскандэру — дзесяць, Надзі — сем гадоў. Старэйшы вучыцца ў ліцэі, а малодшыя — у пачатковай школе. Тут поўнае абучэнне складае 13 гадоў. Усе мае дзеці размаўляюць па-руску. У сталіцы ў культурным цэнтры (савецкім) ёсць курсы для дзяцей па вывучэнню рускай мовы, але мы жывём за 400 кіламетраў ад яе.

Я не працую, хаця і маю вышэйшую філалагічную адукацыю. У Тунісе не вывучаюць рускую мову ў школах, таму для мяне работы няма. Гэта я лічу недахопам у дзейнасці нашай дыпламатычнай службы: у Тунісе пражывае каля 200 савецкіх жанчын, і ў кожнай у сярэднім па двое дзяцей. Многія з нашых жанчын працуюць, асабліва тыя, хто жыве ў сталіцы. У асноўным гэта выкладчыкі спорту. Прыкладна раз у тры гады езджу да маці. Летась вясной да мяне прыязджала сястра, якая жыве ў Мінску. Я таксама вельмі люблю гэты горад. І заўсёды з радасцю і нецярпеннем чакаю сустрэчы з ім, бо ён «для мяне на ўсёй зямлі адзіны», як сказаў пра Мінск П. Панчанка.

Але калі гаварыць пра Радзіму, то ў маім уяўленні гэта перш за ўсё тая невялікая вёска Беразіно на беразе ракі, дзе прайшлі мае дзіцячыя і юнацкія гады, тыя могілкі, дзе спяць мае сваякі і аднавяскоўцы.

Дзеці мае таксама вельмі любяць Беларусь. Апошні раз я была на Бацькаўшчыне два гады назад. З дзецьмі хадзіла на рэчку, у лес па грыбы і ягады. Аб гэтым магу расказваць гадзінамі. Тут зямля маіх продкаў. Усе мае суайчыннікі, напэўна, згодзяцца са мною, калі я прывяду такія радкі з М. Лужаніна: «Жыло, жыве і жыць застанецца тут маё сэрца...»

**Галіна ФРЭДЖ.**

Туніс.

